# Голас Радзімы

№ 34 (2020)
20 жніўня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




**Дарог багата за плячыма**
**І па куп'і і па трысці,**
**З трывогай думаю: магчыма,**
**Мне столькі ўжо і не прайсці.**

**Маўклівы, нават нелюдзімы,**
**Я склаў бы гэты любы спеў**
**У гонар дружбы і радзімы,**
**Ласкавых траў і чулых дрэў.**

**Хай зачараванаю пражай**
**Яны прывяжуць нас навек**
**Пад небам бацькаўшчыны нашай,**
**Да родных ніў, лясоў і рэк.**

**Пятро ГЛЕБКА**

№ 34 (2020), 20 жніўня 1987 г.

З ПАВЕДАМЛЕННЯЎ ТАСС

## КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

У адпаведнасці з праграмай работ арбітальнага навукова-даследчага комплексу «Мір» 3 жніўня 1987 года ў Савецкім Саюзе праведзены запуск аўтаматычнага грузавога карабля «Прагрэс-31» і яго стыкоўка з пілатуемым комплексам «Мір».

Карабель «Прагрэс-31» прыстыкаваны да комплексу з боку модуля «Квант». На арбіту дастаўлены паліва для аб'яднанай рухальнай установкі станцыі, прадукты, вада, абсталяванне і апаратура, а таксама пошта.

Касманаўты Юрый Раманенка і Аляксандр Аляксандраў працягваюць запланаваныя даследаванні на борце арбітальнага комплексу «Мір».

З дапамогай міжнароднай абсерваторыі «Рэнтген», устаноўленай на астрафізічным модулі «Квант», у мінулыя дні выкананы яшчэ дзве серыі назіранняў звышновай у Вялікім Магеланавым воблаку.

Працягваюцца эксперыменты па вывучэнню магчымасцей культывавання вышэйшых раслін ва ўмовах касмічнага палёту. Аб'ектамі даследаванняў у гэтых эксперыментах з'яўляюцца, у прыватнасці, трохмесячныя саджанцы кедра і хларафітум, якія былі дастаўлены на арбіту савецка-сірыйскім экіпажам у караблі «Саюз ТМ-3».

Вынікам савецка-сірыйскай экспедыцыі на станцыі «Мір» была прысвечана прэс-канферэнцыя для савецкіх і замежных журналістаў. З карэспандэнтамі сустрэліся савецкія і сірыйскія вучоныя, кіраўнікі падрыхтоўкі касманаўтаў, камандзір карабля Аляксандр Віктарэнка і касманаўт-даследчык Мухамед Фарыс, члены дванаццатага міжнароднага экіпажа.

Навуковая праграма экіпажа, падрыхтаваная вучонымі дзвюх краін, была распрацавана на шэсць дзён і ўключала ў сябе эксперыменты па вывучэнню прыродных рэсурсаў Зямлі, касмічнай медыцыне, касмічнаму матэрыялазнаўству, а таксама геафізічныя даследаванні і фатаграфаванне тэрыторыі Сірыі ў інтарэсах яе эканомікі.

Старшыня савета «Інтэркосмас», віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук СССР акадэмік В. Кацельнікаў азнаёміў прысутных з характарам праведзеных у час экспедыцыі эксперыментаў. Выступілі А. Віктарэнка і Мухамед Фарыс. Першы касманаўт Сірыі заявіў, што палёт паслужыць справе ўмацавання міру на Зямлі, далейшаму збліжэнню нашых народаў, расшырэнню савецка-сірыйскага супрацоўніцтва, у тым ліку і ў асваенні касмічнай прасторы ў мірных мэтах.

Вучоныя і касманаўты адказалі на шматлікія пытанні карэспандэнтаў.

СЯБРОЎСКІЯ СУВЯЗІ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З ІНДЫІ

У Мінск для ўдзелу ў мерапрыемствах месячніка савецка-індыйскай дружбы, прысвечанага 40-годдзю незалежнасці Індыі і 16-й гадавіне Дагавора аб міры, дружбе і супрацоўніцтве паміж СССР і Індыяй, прыбыла дэлегацыя Індыйска-савецкага культурнага таварыства (ІСКТ) штата Карнатака.

У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі адбылася сустрэча з яго кіраўніцтвам і актывістамі. Удзельнікі гутаркі абмяняліся думкамі аб магчымасцях расшырэння сяброўскіх і культурных сувязей грамадскасці Беларусі і штата Карнатака.

Члены дэлегацыі былі прыняты ў выканкоме Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.

Госці зрабілі паездку па гораду, азнаёміліся з яго выдатнымі мясцінамі, раёнамі новага жыллёвага будаўніцтва, агледзелі экспазіцыю Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. За час знаходжання яны наведалі прадпрыемствы, навукова-даследчыя інстытуты, сацыяльна-культурныя ўстановы Мінска і Полацка, прынялі ўдзел ва ўрачыстым сходзе прадстаўнікоў грамадскасці беларускай сталіцы, мітынгах савецка-індыйскай дружбы.

ПАМЯЦЬ

## НАБАТ ХАТЫНІ І ХІРАСІМЫ ЗАКЛІКАЕ

Прадстаўнікі грамадскасці Японіі і ГДР, Кубы і Францыі, Польшчы і Іспаніі, працоўныя з брацкіх савецкіх рэспублік, горада-героя Мінска сабраліся 6 жніўня ля Вечнага агню на мемарыяльным комплексе «Хатынь», каб ушанаваць памяць ахвяр другой сусветнай вайны.

«Мы, прадстаўнікі краін Азіі, Амерыкі і Еўропы, у дзень памяці ахвяр Хірасімы і Нагасакі звяртаемся да ўрада ЗША з заклікам прыслухацца да голасу розуму і не на словах, а на справе зрабіць крокі да спынення гонкі ўзбраенняў, адмовы ад мілітарызацыі космасу, збавіць чалавецтва ад варварскай зброі. Ад імя нашых народаў мы патрабуем практычных мер па скарачэнню, а затым і поўнай ліквідацыі ядзернай зброі»,—гаворыцца ў рэзалюцыі, аднадушна адобранай удзельнікамі мітынгу і накіраванай у адрас Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Мітынгам пачаліся мерапрыемствы Тыдня дзеянняў за забарону атамнай зброі, прысвечанага Міжнароднаму дню памяці ахвяр атамнай бамбардзіроўкі Хірасімы і Нагасакі. У рамках Тыдня, арганізуемага Беларускім камітэтам абароны міру, на прадпрыемствах і ў арганізацыях рэспублікі, у калгасах і саўгасах, адбудуцца сходы і мітынгі працоўных, вахты і рэйсы міру, дні ўдарнай працы студэнцкіх будаўнічых атрадаў. Сабраныя сродкі паступяць у рэспубліканскае аддзяленне Савецкага фонду міру.

ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

## КАРЫСНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Па запрашэнню Гродзенскага і Мінскага аблвыканкомаў у Беларусі знаходзіліся дэлегацыі афганскіх правінцый Лагман і Кунар. У саставе дэлегацый сакратары правінцыяльных камітэтаў НДПА Тудэн і Нур Вахаб, старшыні выканкомаў саветаў народных прадстаўнікоў Мазамаль і Гальнабі, намеснікі старшынь Нацыянальнага фронта правінцый Абдул Хай і Гулям Хасан.

У Савеце Міністраў БССР адбылася цёплая, сяброўская гутарка, у якой прынялі ўдзел намеснікі Старшыні Савета Міністраў рэспублікі В. Кебіч і М. Ма[illegible]

У той жа дзень дэлегацыі былі прыняты ў Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі. Адбылася гутарка з сакратаром ЦК КПБ У. Ляпёшкіным.

Госці зрабілі экскурсію па Мінску, агледзелі яго памятныя мясціны.

Афганскія госці наведалі таксама Салігорск. Дэлегацыю прыняў старшыня выканкома Салігорскага гарадскога Савета народных дэпутатаў Р. Ермаліцкі і меў з ёю гутарку.

Затым члены дэлегацыі наведалі швейную фабрыку, агледзелі вытворчыя ўчасткі аб'яднання «Беларуськалій», гутарылі з кіраўнікамі і рабочымі гэтых прадпрыемстваў.

Госці таксама азнаёміліся з горадам Салігорскам, пабывалі ў гарадскім універмагу, іншых магазінах, Доме быту і Палацы піянераў, дзе ім былі ўручаны памятныя сувеніры і кветкі.

На наступны дзень дэлегацыя наведала птушкафабрыку ў Мінскім раёне.

Затым у Мінскім аблвыканкоме адбылося падпісанне дакументаў аб дружалюбных сувязях паміж Мінскай вобласцю і правінцыяй Кунар ДРА на перспектыву.

КААПЕРАТЫВЫ

## ЗАВОД У СКЛАДЧЫНУ

Больш дваццаці гаспадароў у прадпрыемства па кормавытворчасці, якое пачало дзейнічаць у калгасе імя Жданава Горацкага раёна. Адной, нават моцнай гаспадарцы, такая будоўля не пад сілу. Таму ўзводзілі завод усім мірам на паявых пачатках. У выніку кожны патраціўся на капейку, а збярог рубель. Аснашчаны сучасным абсталяваннем кормазавод зможа круглы год забяспечваць усе жывёлагадоўчыя комплексы раёна пажыўнай прадукцыяй. Летам у яго цэхах будзе наладжаны выпуск травяной мукі, зімой—камбікармоў, гранул і брыкетаў з саломы, «здобраных» вітаміннымі мікраэлементамі.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



Гэты здымак зроблены ў час уборкі чорных парэчак у саўгасе-садзе «Рассвет» Брэсцкага раёна. Сёлета ў гэтай гаспадарцы з 48 гектараў сабрана 90 тон смачнай ягады.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## УСЕ СПРАВЫ — ЗА АДЗІН ДЗЕНЬ

З мноствам спраў управіліся за адзін дзень жыхары вёскі Азёры Круглянскага раёна: пабывалі на прыёме ва ўрача, адрамантавалі тэлевізары і прыёмнікі, купілі хадавыя тавары, заказалі модныя сукенкі і абутак. А потым усе сабраліся ў клубе. Прадстаўнікі раённай улады, кіраўнікі мясцовага калгаса «50 год Кастрычніка» адказалі на пытанні, выслухалі просьбы і прапановы. Заключным акордам дня стаў канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Жыхарам аддаленых вёсак, многія з якіх пенсіянеры, няпроста прыехаць у райцэнтр. Вось і вырашылі ў Круглянскім раёне пайсці ім насустрач.

Кожны тыдзень у глыбінку адпраўляецца вялікая група спецыялістаў медыцыны, бытавога абслугоўвання, іншых патрэбных насельніцтву служб.

УЗНАГАРОДЫ

## МЕДАЛІ КНІГАМ

Дыплом I ступені, адзін залаты, два сярэбраныя і сем бронзавых медалёў атрымалі на ВДНГ СССР кнігі і брашуры рэспубліканскага выдавецтва «Ураджай», выпушчаныя ў 1985—1986 гадах. Для гэтых выданняў характэрныя асаблівая актуальнасць тэматыкі, глыбокае і ўсебаковае апісанне перадавога вопыту работы аграпрамысловага комплексу Беларусі.

Кнігі, што выпускае выдавецтва, карыстаюцца трывалай папулярнасцю ў работнікаў сельскай гаспадаркі рэспублікі.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## СІСТЭМА «КАСМОН»

Для таго, каб трапіць на прыём да ўрача, жыхарам Заводскага раёна беларускай сталіцы спатрэбіцца цяпер значна менш часу. Па наказах выбаршчыкаў у 17-й гарадской паліклініцы ўкаранёна аўтаматызаваная сістэма апрацоўкі інфармацыі «Касмон».

Хворы, які прыйшоў у аддзяленне прафілактыкі, адказвае на пытанні тэста, медсёстры мераюць яму ціск, робяць электракардыяграму сэрца, правяраюць слых і зрок. Вынікі заносяцца ў спецыяльную карту і закладваюцца ў ЭВМ. Машына імгненна спраўляецца з «папяровай» работай. Дакладныя тэхнічныя даныя, больш працяглы асабісты кантакт доктара і пацыента дазваляюць хутка і беспамылкова ўстанавіць дыягназ.

К канцу года «Касмон» будзе ўстаноўлены яшчэ ў шасці буйнейшых паліклініках Мінска.

АЎКЦЫЁНЫ

## ВЕРНЫЯ ПАМОЧНІКІ

І сёння не абысціся ў вёсцы без верных памочнікаў—коней. Яны апрацоўваюць прысядзібныя ўчасткі, падвозяць сена і малако—надзейна служаць селяніну.

У гэтым можна было яшчэ раз пераканацца, пабыўшы на першым абласным аўкцыёне-семінары па конегадоўлі, які прайшоў у вёсцы Дворышча Лідскага раёна. У ім удзельнічалі Гомельскі, Мсціслаўскі, Мінскі імя Даватара конезаводы, рэспубліканская коннаспартыўная школа. Гаспадароў аўкцыёна прадстаўлялі калгас «Іскра» і эксперыментальная база «Ніва», дзе паспяхова развіваецца конегадоўля.

На аўкцыёне было прададзена 70 племянных коней розных парод. Многія гаспадаркі і арганізацыі набылі сабе для разводу прыгожых і магутных скакуноў.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

МІНСК. Выпуск чайна-кафейных сервізаў «Залатая ружачка», «Верасковы», дзіцячага набору посуду «Бураціна» пачаў фарфоравы завод. У гэтым годзе прадпрыемства ўжо выпрацавала на 360 тысяч рублёў тавараў з індэксам «Н»—навінка. Неўзабаве ў вытворчасць будуць запушчаны чарговыя ўзоры, якія нядаўна адобрыў мастацкі савет завода.

БЕШАНКОВІЧЫ. На прамысловую аснову ставяць вырошчванне грыбоў—вешанак некаторыя гаспадаркі Віцебшчыны. У Бешанковіцкім лясгасе на спецыяльна выдзеленым участку ўстаноўлена пяць тысяч асінавых пянькоў. На іх паселена грыбніца вешанак. Сёлета тут плануецца перадаць у кааператыўны гандаль больш за 5 тон далікатэсных грыбоў.

ПІНСК. Тут адкрыты новы аўтавакзал. Ён размешчаны паблізу чыгуначнага, што, несумненна, зручна для прыязджаючых і ад'язджаючых пасажыраў. Іх абслугоўваюць тут сем кас, абсталяваны прасторная і ўтульная зала чакання, пакой маці і дзіцяці. З Пінскага аўтавакзала машыны ідуць у рэйс больш чым па двухстах маршрутах.

ФОТАРЭПАРТАЖ






Чэрвеньскі міжрэспубліканскі кірмаш тавараў лёгкай прамысловасці ў Маскве працаваў дзесяць дзён. Але ўжо к канцу другога дня прадстаўнікам Лідскай абутковай фабрыкі можна было, як гаворыцца, збіраць чамаданы: усе прапанаваныя імі ўзоры абутку — папулярныя ў моладзі красоўкі, жаночыя адкрытыя туфлі, набор дзіцячых і тэкстыльных мадэлей — былі заказаны. Адрасы паставак знаходзяцца часам далёка за межамі рэспублікі.

Канструктары і мадэльеры фабрыкі, уважліва вывучаючы запатрабаванні пакупнікоў, штогод абнаўляюць да 80 працэнтаў сваёй прадукцыі.

НА ЗДЫМКАХ: новыя мадэлі жаночых туфляў; кантроль якасці красовак вядуць мадэльер-канструктар Валерый ШУКАЛАЎ і майстар швейнага ўчастка Людміла ЛАЗУТА.






**Яшчэ басаногім хлапчуком насіўся ён са сваімі равеснікамі па гэтых берегах навыперадкі з суднамі, якія плавалі па каналу. А калі падрос, скончыў школу, цвёрда вырашыў пайсці па слядах бацькі-франтавіка, які з 1944 года, адразу пасля вызвалення Брэстчыны ад гітлераўцаў, стаў працаваць на гідратэхнічных збудаваннях Дняпроўска-Бугскага канала. Пасля сканчэння Ленінградскага рачнога вучылішча дыпламаваным спецыялістам вярнуўся Сяргей Палышэнкаў дадому — у Кобрын, пачаў працаваць побач з бацькам, дапамагаў падтрымліваць ва ўзорным парадку шлюзавую гаспадарку. Апошнія дзесяць год ён — начальнік комплексу гідратэхнічных збудаванняў у раёне Кобрына, за сумленную працу ўзнагароджаны Граматай Вярхоўнага Савета БССР. Узначальваемы ім калектыў — пастаянна сярод лідэраў працоўнага спаборніцтва, забяспечвае дакладнае праходжанне воднага транспарта з народнагаспадарчымі грузамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: патомны рачнік С. ПАЛЫШЭНКАЎ; судны праходзяць праз Кобрынскі шлюз Дняпроўска-Бугскага тэхнічнага ўчастка.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

### *«МЯСА», «МАЛАКО» І ІНШЫЯ ПРАГРАМЫ ДЛЯ ВЁСКІ*

# ДЗЯРЖАГРАПРОМ: НАВУКА І ПАСКАРЭННЕ

**З дзесяцімільённага насельніцтва Беларусі ў аграпрамысловым комплексе (АПК) занята больш за паўтара мільёна рабочых і служачых, сканцэнтравана 30 працэнтаў усіх вытворчых фондаў. На развіццё АПК штогод асігнуецца звыш трэці капіталаўкладанняў. Але, як падлічылі эканамісты, аддача ад такіх сродкаў магла быць значна вышэйшай, калі пераадолець бар'еры на шляху паскоранага ўкаранення дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу.**

**Як у рэспубліцы матэрыялізуюцца асноўныя навукова-тэхнічныя праграмы для АПК? Якія метады для шырокага выхаду на прынцыпова новыя інтэнсіўныя тэхналогіі выкарыстоўваюцца? Пра гэта журналісту Рыгору КОЛАБАВУ расказвае кіраўнік Галоўнага ўпраўлення па навуковаму забеспячэнню развіцця АПК Дзяржаграпрома БССР член-карэспандэнт Акадэміі навук рэспублікі прафесар Іван НІКІТЧАНКА.**

— Вядомы такія факты. Летась гаспадаркі краіны атрымалі 21 мільярд рублёў прыбытку, на чатыры працэнты больш, чым у 1985 годзе. У Беларусі чысты даход калгасаў у разліку на 100 гектараў угоддзяў павялічыўся з 3,2 тысячы да 17,9 тысячы рублёў, а колькасць гаспадарак са стратнымі галінамі скарацілася ў нас з 721 да 14.

Ці магло б гэта адбыцца без падключэння навукі да паскоранага развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці? Вядома, не. Іншая справа, што навука сёння павінна і можа даць хлебаробу значна больш. Можа, калі абыходзіцца з ёю разумна.

На жаль, у краіне вопыт кіравання навукай у рамках усяго АПК, як састаўной часткі адзінага гаспадарчага арганізма, пакуль малаваты. «Пад дахам» Галоўнага ўпраўлення па навуковаму забеспячэнню Дзяржаграпрома БССР вырашана аб'яднаць усе раней разрозненыя па ведамаснаму прынцыпу навукова-даследчыя інстытуты і розныя праектныя арганізацыі. Мы пайшлі па шляху стварэння навукова-вытворчых аб'яднанняў (НВА). Іх у нас 12. Працуюць яны па праграмах — «Бульба», «Мяса», «Малако» і гэтак далей.

У навукова-вытворчых аб'яднанняў ёсць 47 калгасаў і саўгасаў са 170 тысячамі гектараў угоддзяў, з якіх 124 тысячы — раллі. Гэта іх эксперыментальная база. У НВА занята 23 тысячы чалавек. У бліжэйшыя 15 год яны павінны стаць канкурэнтаздольнымі навукова-вытворчымі комплексамі з уласнымі валютнымі рахункамі ў Дзяржбанку. Як яны ствараліся? Зусім не шляхам фармальнага аб'яднання, як некаторыя лічаць. Напрыклад, на базе Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі для Нечарназёмнай зоны СССР мы арганізавалі НВА, далучыўшы да яго канструктарскія бюро і эксперыментальныя заводы ў Мінску і Гродне. Гэта дае магчымасць рэзка скараціць перыяд ад распрацоўкі да ўкаранення і забяспечыць выпуск для патрэб гаспадарак рэспублікі неабходных машын і механізмаў. З 1 студзеня 1987 года сталі фінансавацца не самі **арганізацыі**, як гэта было раней, а **праграмы**, па якіх будуць працаваць навукова-вытворчыя аб'яднанні.

Такім шляхам дасягаецца канцэнтрацыя фінансавых рэсурсаў і навуковых кадраў на вырашэнне найбольш актуальных праблем развіцця галін аграрнага комплексу рэспублікі. Гэта мае дачыненне ў першую чаргу да павелічэння вытворчасці збожжа і мяса. Навукова-вытворчым аб'яднанням, якія працуюць, напрыклад, па праграмах «Павышэнне ўрадлівасці глебы» і «Збожжа», пастаўлена задача на перспектыву забяспечыць ураджайнасць збожжавых ад 70 да 90 цэнтнераў з гектара. Тым, хто ажыццяўляе праграмы «Малако» і «Мяса», трэба давесці гадавыя надоі ад каровы да 7 тысяч кілаграмаў. Праграма «Мяса» ставіць задачы — рэзка павялічыць сярэднесутачныя прыбаўленні ў вазе жывёлы, скараціць тэрмін яе гадоўлі, палепшыць ўзнаўленне статка.

У навуковую распрацоўку кожнай праграмы закладзены фактары рэсурсу і энергазберажэння, рацыянальнага прыродакарыстання, іншых рэзерваў. Упершыню ў практыцы будуць скарыстоўвацца паказчыкі, якія характарызуюць канчатковыя вынікі развіцця навуковага комплексу, ступень дасягнення праграмных мэт, эфектыўнасць выкарыстання рэсурсаў. Такімі вымяральнікамі будуць, напрыклад, выпушчаная і выкарыстаная канчатковая прадукцыя АПК. Вызначаюцца яны для ўсіх узроўняў кіравання ў натуральным і грашовым выражэннях.

Паколькі нашы калгасы і саўгасы спецыялізуюцца на жывёлагадоўлі, асобае значэнне надаецца кормавытворчасці. У севазвароты ўключаюць бабовыя, а таксама канюшыну, люцэрну, рапс, якія добра растуць у нас. Распрацоўваюцца новыя тэхналогіі ўнясення ўгнаенняў. Усё гэта дазволіла ўжо сёння ўзняць ураджайнасць кармавых культур у сярэднім да 40 цэнтнераў кармавых адзінак з гектара. І гэта, на думку спецыялістаў, далёка не мяжа.

Праграмай «Кармы» вызначаны нормы кармлення для ўсіх відаў жывёл розных узроставых груп, удасканалены і распрацаваны новыя спосабы прыгатавання, захоўвання і ацэнкі якасці кармоў. Так, рэкамендацыі па прымяненню кансервантаў — абагачальнікаў пры сіласаванні бабовых сумесяў дазволілі знізіць страты пажыўных рэчываў пры захоўванні ў 3-5 разоў. Цікавая распрацоўка па выкарыстанню саломы ў якасці корму. Яе пажыўнасць павялічана на 40-50 працэнтаў за кошт дадатковай апрацоўкі. Праект такога цэха прыняты і ўкараняецца ў гаспадарках.

Намаганні вучоных накіраваны і на праблемы, звязаныя з эканоміяй кармоў. Распрацаваны, напрыклад, збалансаваныя бялкова-вітамінныя дабаўкі. Новаўвядзенне ўкаранёна на свінагадоўчым комплексе пад Барысавам. Эканомія перавышае 140 рублёў на тону камбікорму. Добра зарэкамендавала сябе яшчэ адна навінка — заменнік цэльнага малака. Ён выпрацоўваецца з адходаў на малочных заводах і прымяняецца для адкорму маладняку, што зніжае кошт гадоўлі аднаго цяляці на 15 і больш рублёў.

Вялікая ўвага ўдзяляецца селекцыі жывёлы. Выведзена і ўдасканальваецца заводская лінія кароў чорна-пярэстай пароды, створана некалькі дзесяткаў сямействаў такой жывёлы прадукцыйнасцю 6—8 тысяч кілаграмаў малака ў год. Селекцыянеры працуюць над стварэннем мясцовага мяснога тыпу буйной рагатай жывёлы. Бычкі гэтай пароды ўжо да гадавога ўзросту набіраюць вагу 460 кілаграмаў.

Галоўная задача нашага ўпраўлення па навуковаму забеспячэнню сёння — дасягнуць цеснага кантакту непасрэдна з тымі, хто выпрацоўвае прадукцыю. З гэтай мэтай мы будзем пашыраць практыку заключэння дагавора паміж гаспадаркамі і навуковымі ўстановамі, прадаставіўшы права калгасам і саўгасам «са сваёй кішэні» прэміраваць вучоных за эфектыўнасць укаранення распрацовак. Будзем таксама ствараць спецыялізаваныя прадпрыемствы па ўкараненню навацый. Многія навуковыя ўстановы Дзяржаграпрома арганізуюць у калгасах і саўгасах апорныя пункты. Дзейнасць іх фінансуецца па той ці іншай праграме, а калгас дае магчымасць для ўкаранення. У сутыкненні меркаванняў, канцэпцый і метадаў нараджаюцца цікавыя ідэі, а навуковыя спрэчкі вырашаюцца на практыцы. Гэта адзін з самых канкрэтных шляхоў для ўкаранення інтэнсіўных тэхналогій.

Навука можа даваць сельскай гаспадарцы многае. Удасканальванне яе сувязей з вытворчасцю бязмежнае.

# ПАЛАЦ РЭСПУБЛІКІ

На многія гады прыйшлося ператварыць у будаўнічую пляцоўку Кастрычніцкую плошчу, дзе традыцыйна праводзіліся святочныя ўрачыстасці, дэманстрацыі і ваенныя парады. Спачатку адзін са сваіх «апорных пунктаў» на ёй размясцілі метрабудаўцы. Вынікам іх работы стала стварэнне падземнага палаца — станцыі Кастрычніцкай. А цяпер узводзіцца палац і на паверхні. У першай палавіне 1990 года, як плануюць будаўнікі, у сталіцы Беларусі пачне дзейнічаць Палац рэспублікі, дзе будуць праходзіць важнейшыя форумы і ўрачыстасці.

Каланада, якая паднялася па ўсяму перыметру будынка, дае ўяўленні аб яго памерах: фасад працягнецца больш чым на сто метраў. Пад дахам Палаца размесціцца некалькі залаў, самая вялікая з якіх разлічана на 2 700 чалавек. Праектам, распрацаваным творчым калектывам інстытута «Белдзяржпраект» пад кіраўніцтвам галоўнага архітэктара М. Пірагова, прадугледжана правядзенне канцэртаў, пастаноўка тэатральных спектакляў, іншых масавых відовішчаў.

Усё гэта будзе. А пакуль што непрыкметна для гараджан ідзе будаўніцтва. Яго напружаны рытм не кідаецца ў вочы таму, што будаўнікі пастараліся зрабіць усё, каб не прычыняць нязручнасцей жыхарам. Неабходныя матэрыялы завозяцца з «тылоў» — па вузкіх вулках старой часткі Мінска. Адзінае, што выдзяляе будоўлю, — вышынныя вежавыя краны, якія ўзняліся над плошчай.

— У інжынерных адносінах аб'ект вельмі складаны, — гаворыць начальнік будаўнічага ўчастка А. Зубовіч. — Хоць у нашага калектыву за плячамі інжынерны корпус метрапалітэна, кінатэатры, іншыя буйныя аб'екты, тут сутыкнуліся з задачамі, над якімі трэба пакарпець. Скажам, тыя ж калоны, якіх некалькі дзесяткаў. На іх перавозку прыйшлося б накіраваць цэлы караван цяжкавагавых аўтамабіляў, пракладваць спецыяльны маршрут. Каб паскорыць работы, прымянілі металічную апалубку новай канструкцыі. Яна хутка збіраецца, і выкарыстоўваць яе можна шматразова.

Будаваць у цэнтры горада заўсёды цяжка. Але асабліва складана, калі кожная пядзя зямлі авеяна гісторыяй. Пры капанні катлавана былі знойдзены рэшткі фундамента былога касцёла дамініканцаў з фартыфікацыйнымі збудаваннямі — першага манументальнага будынка ў Мінску, узведзенага ў пачатку XVII стагоддзя. Археолагі знайшлі тут старадаўнія гарматныя ядры, розныя бытавыя рэчы. Будаўнікам давялося пацясніцца, ды і працаваць з гранічнай асцярожнасцю. Бо на месцы раскопак пасля ўзвядзення Палаца рэспублікі намечана адкрыць музей.

Кастрычніцкая плошча, якая яшчэ нядаўна называлася Цэнтральнай, атрымала новую назву не выпадкова. Помніць яе зямля і рэвалюцыйны крок удзельнікаў барацьбы за Савецкую ўладу, і цвёрды поступ ударнікаў першых пяцігодак, і шэсце воінаў-вызваліцеляў Мінска ад гітлераўскіх захопнікаў... Таму многа ўвагі ўдзяляецца цяпер яе рэканструкцыі: Кастрычніцкая плошча павінна стаць архітэктурным цэнтрам беларускай сталіцы. І калі раней у асяроддзі спецыялістаў лічылася, што плошча павінна «раскрыцца» ў бок Свіслачы, што непазбежна прывяло б да зносу старых, у тым ліку і гістарычных будынкаў, то цяпер прынята рашэнне захаваць і рэстаўрыраваць іх. А Палац рэспублікі, як нельга лепш, падкрэсліць арганічную ўзаемасувязь старога і новага, традыцый і сучаснасці.

**В. НОВАШ.**

## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»




Некалькі гістарычных нарысаў, што склалі кніжку Станіслава Цярохіна «Мядовы бунт», пераносяць нас у далёкае і не так далёкае мінулае. Прачытаўшы іх, мы атрымліваем для душы нешта вельмі патрэбнае: зведаўшы некалькі старонак гісторыі, мы з большай павагай глядзім на наш край і яго народ сёння. Успамінаецца адразу ж слушная думка аўтара, выказаная ім ва ўступе: «Без засваення мінулага чалавек немагчымы як асоба».

Думаю, што кожны беларус, які прачытае пра лёс піянера баявога ракетабудавання Казіміра Семяновіча, не зможа не адчуць гордасці, што і ён нарадзіўся на той зямлі, якая дала свету такога таленавітага і незвычайнага чалавека. Яго трактат «Вялікае мастацтва артылерыі», напісаны ў сярэдзіне XVII стагоддзя, набыў сусветную вядомасць і быў выдадзены ў шэрагу еўрапейскіх краін. «На працягу больш як 150 гадоў работа К. Семяновіча была адзіным вычарпальным падручнікам і адначасова найбольш поўным навуковым даследаваннем па артылерыі і ракетабудаванню ў XVII—XVIII стагоддзях».

А хіба меншую цікавасць і роздум выклічуць іншыя светлыя постаці нашай мінуўшчыны? Вось апантаны сваёй ідэяй Казімір Чарноўскі з Міншчыны, вязень Петрапаўлаўскай і Шлісельбургскай крэпасцяў, які так і памёр, не дачакаўшыся свабоды, не здзейсніўшы сваіх смелых рэвалюцыйных планаў. Але Чарноўскі застаўся ў гісторыі як аўтар праекта першай падводнай лодкі. Выклікае здзіўленне і пашану цэльнасць гэтай натуры. Замураваны ў крэпасці, адзеты, як і ўсе вязні, у пашытае з мяшочнага палатна нязграбнае і мулкае турэмнае адзенне, пасаджаны, можна сказаць, на хлеб і ваду, Казімір Чарноўскі знаходзіць у сабе сілы аддацца творчай працы. Не маючы пад рукой неабходнай тэхнічнай літаратуры, вымяральных інструментаў, ён, абапіраючыся выключна толькі на сваю памяць, за тры тыдні распрацаваў тэарэтычныя і практычныя асновы падводнага плавання і склаў першы ў Расіі праект падводнай лодкі.

Пабудаваная прадаўжальнікам справы Чарноўскага, таксама нашым земляком, ураджэнцам Віцебскай губерні генерал-ад'ютантам К. Шыльдэрам першая ў краіне падводная лодка паспяхова прайшла ў жніўні 1834 года выпрабаванні. Яна стала флагманам расійскага падводнага флоту.

Вось падзвіжнікі ў навуцы Людвік Юцэвіч і Еўдакім Раманаў, якія пакінулі нам каштоўныя апісанні жыцця і быту беларусаў мінулага стагоддзя. Зробленае імі яшчэ доўга будзе служыць нам і нашым нашчадкам.

Сузор'е лепшых розумаў нашага народа, якое працавала ў надзвычай цяжкіх умовах,— яно свеціць сёння не толькі нам, свеціць усяму чалавецтву. І пішам мы сёння пра іх не дзеля «самалюбнай радасці», а дзеля таго, каб сказаць праўдзівае слова аб тым, што мы зрабілі для агульначалавечай скарбніцы.

Тут зноў жа хочацца вярнуцца да аўтарскага ўступу і звярнуць увагу чытача на тыя радкі, у якіх гаворыцца аб беспадстаўнасці «буржуазных ідэолагаў, у тым ліку і тых фальсіфікатараў у мантыях вучоных, што насуперак відавочным фактам імкнуцца давесці ўсяму свету, што славяне не здольны да самастойнай творчасці, а іх сучасная культура — прамы вынік так званай «еўрапеізацыі». Маўляў, славяне ў мінулым нічога не мелі, а тое, што ў іх ёсць сёння, не што іншае, як шчодры дарунак заходняй і ў першую чаргу нямецкай цывілізацыі».

Якраз усё напісанае С. Цярохіным сцвярджае адваротнае і абараняе права нашага народа на свой твар, сваю багатую, але яшчэ недастаткова вывучаную культурную і навуковую спадчыну.

У брашуру, акрамя нарысаў пра вышэйпамянёных падзвіжнікаў у навуцы, уключаны яшчэ тры — «Мядовы бунт», ад якога пайшла назва кніжкі, «Шахматы далёкіх продкаў» і «Паўлаўская рэспубліка». Усе яны папярэдне друкаваліся на старонках «Голасу Радзімы». Асаблівую цікавасць, мяркуем, выкліча змястоўны, у дэталях і эпізодах, расказ аўтара пра змаганне беларускіх сялян супраць самавольства і здзекаў над імі магнацкага роду Сапегаў у XVII стагоддзі. Іскрай, з якой разгарэлася полымя гневу і непакорнасці, паслужыла спрэчка вакол мядовай даніны, якую павінны былі выплачваць сяляне Ганне Сапезе. Адсюль пайшла і назва бунту. Шмат падзей разгортваецца перад намі, крывавых, трагічных. На іх фоне бачны моцныя ў сваёй веры і бітве за праўду, за сацыяльную справядлівасць, за чалавечую годнасць постаці нашых продкаў — беларускіх мужыкоў. Гэта яны — працоўны люд — пісалі гісторыю нашай Бацькаўшчыны.

Эпіграфам да кніжкі С. Цярохіна «Мядовы бунт» узяты словы вядомага нашага паэта Уладзіміра Караткевіча: «А што вы ведаеце пра краіну, у якой вас маці на свет нарадзіла?» Прачытаўшы яе, наш замежны суайчыннік адкрые для сябе новыя старонкі з гісторыі Беларусі, яе цікавага, насычанага падзеямі мінулага, даведаецца пра новыя імёны, адметныя рысы нацыянальнага характару беларусаў. Ён будзе ведаць больш пра зямлю сваіх продкаў і ганарыцца імі.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# УПЭЎНЕНЫ Ў СВАІМ НАРОДЗЕ

Добры дзень, дарагія сябры!

Даўно не пісаў вам, а цяпер некаторыя нядаўнія падзеі нашага жыцця навялі мяне на разважанні, якімі і хачу падзяліцца з вамі.

У напружаны і трывожны час жывём мы сёння. І мне хочацца пажадаць нашай Радзіме — вялікай Краіне Саветаў яшчэ большых поспехаў ва ўсіх яе справах. Таму што менавіта ад нашай Радзімы ў многім цяпер залежаць будучыня і лёсы народаў планеты. Калі не была б яна такой моцнай і магутнай, імперыялісты, асабліва амерыканскія, даўно б не пасаромеліся сваёй звярынай лапай захапіць усё чалавецтва. Я добра помню трумэнскія размахванні атамнай бомбай і пагрозы ўсім, хто не схіліцца перад амерыканскай воляй. Толькі дзякуючы Савецкаму Саюзу гэтыя пагрозы не былі ажыццёўлены. І дзіўная справа: як некалі гітлераўскія цемрашалы крычалі, што з імі бог, так і цяпер амерыканскія «ястрабы» заяўляюць, што бог з імі. Мы былі сведкамі таго, што бог прывёў фашызм да ганебнага канца. Упэўнены, што і цяпер пераможа справядлівасць. І ўсё ж на душы трывожна. Цемрашалы не супакойваюцца, і нічога добрага чакаць ад іх не даводзіцца. Таму што гэта па іх патрабаванню прэзідэнт Рэйган адпускае 112 мільярдаў долараў ваеннапрамысловаму комплексу. Добры кавалачак! Хто ж адмовіцца ад такой пажывы? Але ж нехта павінен вывернуць кішэні, каб сабраць такую астранамічную суму, і трэба пераканаць народ, што гэта неабходна. Для гэтага ў распараджэнні імперыялістаў маецца цэлая армія заўзятых прайдзісветаў. Скарыстоўваючы ўсе даступныя сродкі, у тым ліку і бога, яны калечаць свядомасць людзей, даказваючы, што, маўляў, усе беды і нягоды, якія церпіць народ, адбываюцца па віне камуністаў. Гавораць, што камуністы ўсё адбяруць у людзей і пакінуць іх ні з чым. Таму і трэба пастаянна ўмацоўваць абарону. Знаходзіцца яшчэ нямала такіх, хто верыць такой бязглуздзіцы, а гэта трэба імперыялістам. Але такіх з кожным днём усё менш, паколькі ніякія казкі аб «пагрозе з Усходу», не замаскіруюць той факт, што чым больш сродкаў ідзе на гонку ўзбраенняў, тым большая армія бяздомных і тым больш людзей кладзецца спаць не вячэраўшы. Таму ўсіх нас так радуюць і абнадзейваюць выступленні М. С. Гарбачова ў абарону міру. Гэтыя выступленні прымушаюць людзей паверыць у тое, што наша Радзіма сапраўды хоча міру на планеце.

На такія думкі мяне навяла нядаўняя паездка на Кубу, якую мы зрабілі са сваякамі жонкі. Не ведаю, хто першым назваў невялікую дзяржаву Востравам Свабоды, але ад сябе магу сказаць, што гэта сапраўды так. Аднойчы мы нанялі таксі і паехалі ў глыб тэрыторыі. Праездзілі каля шасці гадзін, гутарылі з многімі фермерамі. На Кубе ёсць кааператыўныя гаспадаркі і ёсць аднаасобныя. Усе, з кім мы сустракаліся, гаварылі, што задаволены сучасным жыццём. Мы пабывалі і на цукровым заводзе. І нідзе ніхто не пытаўся ў нас які-небудзь пропуск для праезду. Аказалася, што ён і не патрэбен, можна свабодна ездзіць па ўсёй краіне. Людзі ўсюды вельмі вясёлыя і дружалюбныя. Мяне ўразіў адзін факт. Куба імпартуе пшаніцу з розных краін, у тым ліку і з Канады. Дык вось, там бохан хлеба каштуе каля 25 цэнтаў у канадскай валюце. А такі ж бохан хлеба ў Канадзе каштуе 1 долар 30 цэнтаў! Уся вытворчасць хлеба ў Канадзе ў руках буйных манаполій. Яны на гэтым нажываюцца, а для тых, хто хлеб вырошчвае, ён дорага каштуе. Вось такая «свабода» ў Канадзе.

Цяпер у нашай краіне ідуць розныя меркаванні адносна выступленняў М. С. Гарбачова. Здаецца, кожнаму павінна быць ясна, што ўсе яго старанні накіраваны на скарачэнне і знішчэнне ядзернай зброі, а таксама на паляпшэнне жыцця савецкага народа. Але тыя, каму не падабаецца савецкая сістэма, крычаць, што ён хоча наблізіць эканоміку СССР да капіталістычнай. Тутэйшыя каментатары ўсё перакручваюць на свой лад. Але мы, суайчыннікі, чытаем прэсу з Радзімы і добра разумеем, што адбываецца. Я асабіста вітаю старанні савецкага кіраўніка забяспечыць чалавецтву светлае заўтра, і мы абавязаны дапамагаць яму ў гэтым усім светам. Я таксама вітаю жаданне цяперашняга кіраўніцтва на Радзіме падлячыць хворыя месцы ў савецкім жыцці. Яны ёсць, і адмахвацца ад іх было б неразумна. А тое, што вы самі аб іх гаворыце і стараецеся выправіць, выбівае глебу з-пад ног паклёпнікаў на Савецкую краіну. Мы ўсёй душой за перабудову і палітыку публічнасці, за квітнеючую Савецкую Радзіму. Мы ведаем наш народ і ўпэўнены, што ён зможа дабіцца ўсяго, што намячае.

**Аляксей і Ірына ГРЫЦУКІ.**

Канада.

# «ПЕРАМЕНЫ АДЧУВАЮЦЦА ЎСЮДЫ»

У Мінску пабывала дэлегацыя Усекітайскай федэрацыі прафсаюзаў на чале з сакратаром ВФП Чжан Фую. Госці з КНР былі прыняты ў Беларускім рэспубліканскім савеце прафсаюзаў, наведалі адзін з буйнейшых у рэспубліцы Мінскі трактарны завод, азнаёміліся з дзейнасцю студэнцкай прафсаюзнай арганізацыі Інстытута народнай гаспадаркі і агледзелі памятныя мясціны краю.

— Мэта нашага візіту ў СССР заключалася ў тым, каб паглыбіць узаемаразуменне паміж прафесіянальнымі саюзамі Кітая і Савецкага Саюза, умацаваць адносіны дружбы паміж прафсаюзнымі арганізацыямі дзвюх краін,— заявіў у гутарцы з карэспандэнтам АДН кіраўнік кітайскай дэлегацыі.— Адначасова мы абмяняліся вопытам работы прафсаюзаў і абмеркавалі звязаныя з гэтым канкрэтныя пытанні.

Як і ўсюды ў краіне, працэсы перабудовы, паскарэння, дэмакратызацыі вызначаюць сёння эканамічнае жыццё Мінска, настрой працоўных, усю грамадскую атмасферу горада. Менавіта гэты бок савецкай рэчаіснасці, а таксама пытанні ўдзелу ў перабудове прафсаюзаў выклікалі пільную ўвагу кітайскіх гасцей, якім былі прадастаўлены шырокія магчымасці для знаёмства з праблемамі, што вырашаюцца сёння працоўнымі калектывамі.

— Перабудова ў Савецкім Саюзе выклікае вельмі вялікую цікавасць сусветнай грамадскасці,— сказаў, дзелячыся ўражаннямі аб наведанні Мінскага трактарнага завода, Чжан Фую.— У Кітаі цяпер таксама ажыццяўляецца рэформа. Таму кітайскі народ уважліва сочыць за ходам пераўтварэнняў у вашай краіне. Падрабязна азнаёміўшыся са становішчам спраў на трактарным заводзе, мы, напрыклад, убачылі, што кіраўніцтва завода многа ўвагі ўдзяляе злучэнню інтарэсаў працоўных і прадпрыемства ў цэлым, з тым каб узмацніць зацікаўленасць калектыву ў развіцці вытворчасці. На заводзе расшыраецца самакіраванне. Гэта адкрывае новыя перспектывы павышэння працоўнай актыўнасці рабочых, дае магчымасць інтэнсіўней развіваць сацыяльную сферу. Вялікае ўражанне на нас зрабіла і тое, як многа на прадпрыемстве робіцца для паляпшэння ўмоў працы, бытавога абслугоўвання і павышэння жыццёвага ўзроўню рабочых і служачых.

Закранаючы вопыт прафсаюзнай работы, з якім кітайская дэлегацыя пазнаёмілася ў Мінску, Чжан Фую адзначыў:

— Мы пераканаліся, што савецкія прафсаюзы прымаюць актыўны ўдзел у распрацоўцы і рэалізацыі праграмы перабудовы, многа робяць для абароны інтарэсаў працоўных. Вялікае ўражанне на нас зрабіў дзелавы падыход прафсаюзных арганізацый да вырашэння бягучых праблем вытворчасці. Мы звярнулі ўвагу і на актыўнасць прафсаюзных работнікаў. Хаця ў пярвічных арганізацыях мала вызваленых работнікаў, яны выконваюць вельмі значны аб'ём работы. У гэтым таксама нельга не заўважыць уплыву перабудовы. Тут, як і ўсюды, адчуваецца паскарэнне.

Адказваючы на пытанне карэспандэнта аб ролі прафесіянальных саюзаў у барацьбе за мір і прадухіленне жахаў новай вайны, кіраўнік кітайскай дэлегацыі заявіў, што прафсаюзы могуць і павінны ўнесці свой уклад у разрадку напружанасці і разабраенне. Шлях да гэтага, указаў Чжан Фую, ляжыць у тым ліку і праз развіццё сувязей і супрацоўніцтва паміж прафсаюзамі розных краін, што садзейнічае ўмацаванню давер'я і ўзаемаразумення.

— Наша шчырае жаданне — каб абмен, сяброўскія кантакты паміж прафсаюзамі КНР і СССР развіваліся і мацнелі,— сказаў Чжан Фую.— Што тычыцца форм супрацоўніцтва, то тут перад намі адкрываецца шырокі выбар. Напрыклад, развіццё сувязей паміж галіновымі прафсаюзамі ці спартыўны абмен у рамках прафсаюзаў. Старшыня ВЦСПС таварыш Шалаеў ужо ўнёс цэлы шэраг цікавых прапаноў, якія мы сур'ёзна вывучаем.

У заключэнне кіраўнік дэлегацыі ВФП адзначыў:

— Самае вялікае ўражанне на нас зрабіла пачуццё шчырай дружбы, якое савецкія людзі адчуваюць да нас, кітайскага народа. Усюды нам аказалі цёплы прыём і вялікую дапамогу ў нашай рабоце. Пакідаючы вашу гасцінную краіну, мы хацелі б выказаць глыбокую павагу да савецкага народа і шчыра пажадаць яму вялікіх поспехаў у справе перабудовы.

**Гутарку вёў Вячаслаў ХАДАСОЎСКІ.**

# «СРЕДИ НАС РАСТЕТ ЧЕМПИОН МИРА...»

В Минске живет немало спортивных знаменитостей, чьи имена известны всему миру: гимнастка Ольга Корбут и борец Александр Медведь, фехтовальщик Александр Романьков и штангист Леонид Тараненко, конькобежец Игорь Железовский и теннисистка Наталия Зверева. Но, пожалуй, ни один вид спорта не принес минчанам столько чемпионских титулов, как стоклеточные шашки. Все чаще в решающих встречах самого высокого ранга друг против друга за шашечной доской оказываются игроки одной команды — сборной Белоруссии. Так было и в конце прошлого года, когда пятикратная чемпионка мира Елена Альтшуль уступила этот титул своей 19-летней землячке Зое Садовской.

Новая чемпионка мира стала четвертой представительницей Минска на шашечном Олимпе. До нее здесь побывали, кроме Елены Альтшуль, Людмила Сохненко и Анатолий Гантварг.

Обсуждая этот феномен, спортивные специалисты обращают внимание на то, что три чемпионки мира начинали заниматься у одного и того же тренера Михаила Каца. И не без оснований связывают с этим именем успехи минской шашечной школы.

В данном случае слово «школа» звучит не только в переносном, но и в прямом смысле. Заслуженный тренер СССР Михаил Кац ведет занятия в специализированной детско-юношеской школе шахмат и шашек, которая недавно праздновала новоселье в одном из реставрированных зданий старого Минска. Сюда три-четыре раза в неделю приходят его многочисленные питомцы, среди которых и обладатели громких чемпионских титулов, и семилетние малыши, только начинающие осваивать премудрости шашечной игры.

— Я начала ходить в шашечную школу Михаила Каца,—вспоминает нынешняя чемпионка мира Зоя Садовская,—когда мне едва исполнилось девять лет. Тогда, впрочем, это была еще не школа, а кружок любителей шашек, который на общественных началах вел в спортивном клубе при домоуправлении мой будущий тренер. Одновременно он преподавал математику в средней школе, где я училась. Устраивая тренировочные турниры, Кац, шутя, давал нам имена знаменитых гроссмейстеров. Кто-то был Гантваргом, кто-то Баба Си, а кто-то Вирсмой. «Среди нас растет чемпион мира», — любил повторять тренер. И, как видим, оказался прав...

Первой из воспитанниц Михаила Каца стала «шашечной королевой» Людмила Сохненко. Это было семь лет назад. Сегодня экс-чемпионка мира сосредоточила все внимание на научной работе. Она готовит кандидатскую диссертацию и работает ассистентом кафедры психиатрии в Белорусском институте усовершенствования врачей. Но бывшую чемпионку часто можно встретить в республиканском Дворце шахмат и шашек.

Чемпионский титул у Людмилы Сохненко отняла 16-летняя Елена Альтшуль — другая воспитанница Михаила Каца. Она и сегодня продолжает посещать занятия своего первого спортивного учителя. Здесь она регулярно встречается за стоклеточной доской с нынешней чемпионкой мира студенткой Минского института физкультуры Зоей Садовской.

Получив приглашение посетить одно из занятий шахматно-шашечной школы, я выбрал день, когда здесь собираются не гроссмейстеры, а дебютанты. Почему? Рассказывая о своих титулованных ученицах, тренер сообщил, что в его начальной группе есть малыш, который недавно выиграл у гроссмейстера.

В классе, где вместо парт стояли столики с игровыми досками, я застал четверых школьников, которые приехали из разных районов города и увлеченно разыгрывали сложные шашечные комбинации. Кого-то впервые привели сюда родители, но большинство пришли по приглашению тренера, который в начале каждого учебного года, захватив комплект шашек, обходит городские общеобразовательные школы. Давний любитель этой игры, он фанатически увлекается ею уже четверть века, больше чем половину прожитой жизни. Дважды в составе команды Кац становился обладателем Кубка СССР. Но, по его собственным словам, «спортсмен уступил место педагогу»...

В самом деле, увлечь шашками непоседливых мальчишек и девчонок, которых обычно привлекают более подвижные виды спорта,— дело непростое. Но опытному тренеру, обладающему талантом общения с детьми, удается зажечь воображение юного дебютанта будущими поединками с именитыми чемпионами, возбудить желание помериться с соперником не физической силой, а сообразительностью. Сейчас в трех его, Михаила Каца, группах, включая гроссмейстерскую, занимаются около 30 человек (всего же школу посещают более тысячи учащихся в возрасте от 8 до 22 лет).

Четверо младших школьников, с которыми меня познакомил тренер, в дни весенних каникул выезжали в Могилев, где участвовали в играх на первенство республики среди школьников, 13-летний Виктор Азаров — кандидат в мастера спорта, 12-летний Виталий Уэльский и 10-летний Григорий Нозик — перворазрядники. Норматив первого взрослого разряда выполнил и восьмилетний Андрей Моисеев — один из самых юных воспитанников Михаила Каца. Все они уже встречались за шашечной доской с Еленой Альтшуль, Зоей Садовской и другими именитыми.

Перелистывая дневник одного из новичков, я увидел знакомую запись: «Среди нас растет чемпион мира»... Перехватив мой взгляд, тренер улыбнулся:

— Кому-то это покажется шуткой. Но я считаю, что именно в юном возрасте человеком владеют самые честолюбивые, самые безграничные мечты. Внушить этим детям веру в свои силы, в свои беспредельные возможности не менее важно, чем научить чему-то конкретному. Надеюсь, из этой школы действительно выйдут новые чемпионы.

**Аркадий БРЖОЗОВСКИЙ.**
(АПН).

## *ВЫ ХОТИТЕ ЗНАТЬ*

**— Когда и по каким предметам сдают экзамены советские школьники? Что происходит с теми, кто провалил экзамен?**

— Первый раз советские школьники сдают экзамены после окончания 8-го класса (14—15 лет). Всего их четыре—по языку (письменно и устно), по математике (письменно и устно). В школах с углубленным преподаванием иностранных языков (спецшколы) к ним еще добавляется устный языковой экзамен. После десятого-одиннадцатого класса—7 выпускных экзаменов за весь курс средней школы: русская и советская литература (устно и письменно), алгебра и начала матанализа (письменно), физика, химия, история и обществоведение, иностранный язык (все—устно).

Оценки такие: «5» (отлично), «4» (хорошо), «3» (удовлетворительно), «2» (плохо) и «1» (очень плохо).

Восьмиклассник, проваливший и не пересдавший экзамены, остается на второй год.

**— Насколько распространено курение среди вашей молодежи?**

— Постоянно курят 78 процентов юношей и 15,6 процента девушек 20—24 лет.

Эти данные были приведены в статье, с которой общесоюзный молодежный еженедельник «Собеседник» начал в этом году антиникотиновую кампанию. Противников курения среди молодых оказывается явно больше. Некоторые из них предлагают ограничить продажу табака до минимума, повысить цены до максимума, а плантации табака засеять лекарственными травами. В некоторых городах уже возникли молодежные антиникотиновые общества, вступительный взнос в которые—40—50 копеек, что соответствует стоимости одной пачки сигарет.

**— Правда ли, что в СССР есть молодежь, подражающая панкам, «металлистам»?**

— Да, в Советском Союзе (как правило, в больших городах) есть «металлисты», панки, хиппи, брейкеры и другие молодежные группы. У нас их еще называют «неформальными объединениями». Иногда на местном уровне (район, город) делается попытка противопоставить их комсомолу—крупнейшей советской молодежной организации.

«Никакой альтернативности мы здесь не видим,—говорит лидер комсомола Виктор Мироненко.—Это не сегодня возникшее явление. Стремление к единству по интересам было у молодежи всегда. Только одни такие группы существовали несколько недель, другие—годы, десятилетия. Комсомол должен всячески поддерживать и это стремление молодежи, и эти группы, оказывать на них воздействие—через комсомольцев, входящих в их состав, через взаимные включения в какие-то органы».

**— Правда ли, что подростки в СССР не привлекаются к уголовной ответственности?**

— По советским законам к уголовной ответственности могут привлекаться лица с 16 лет. В исключительных случаях—за особо тяжкие преступления против личности, за умышленные действия, могущие вызвать катастрофические последствия (например, крушение поезда), под суд отдаются 14—15-летние.

Следует подчеркнуть, что работа советских правоохранительных органов ориентирована прежде всего на предупреждение антиобщественных поступков со стороны подростков и молодежи, использование мер воспитательного и общественного характера.



**В крупнейшем жилом массиве Бреста Восток живет и учится более двадцати тысяч школьников, учащихся профтехучилищ, студентов. Досуг многие из них с большой пользой для себя проводят во Дворце культуры профсоюзов. По душе ребятам занятия в студиях бального танца и изобразительного искусства, народном ансамбле «Брестчанка», клубе самодеятельной песни, в ряде других художественных коллективов. Все новыми участниками пополняются различные кружки технического творчества, спортивные секции. А как увлекательно проходят встречи со знатными земляками, бывшими фронтовиками и партизанами, с учеными и писателями! Работники Дворца культуры в тесном контакте с комсомольскими организациями областного центра разрабатывают каждое мероприятие, адресованное молодежи, стараются проводить досуг увлекательно, интересно. Главная их цель—не только правильно спланировать отдых, но и донести до юношей и девушек определенную информацию, развить у ребят социальную активность.**

**НА СНИМКАХ: после очередного вечера поэзии автограф читателям дает белорусская поэтесса Нина МАТЯШ; медсестра брестской поликлиники № 1 Татьяна РЫБАК три года занимается во Дворце. Совершенствовать вокальное мастерство ей помогает заслуженный работник культуры БССР Сергей ЛЮБЧУК; идет первенство микрорайона Восток по шашкам.**

**Фото Э. КОБЯКА.**





## ЯК ІДЗЕ ПЕРАБУДОВА Ў СФЕРЫ КУЛЬТУРЫ

# АДЗІН З РЫЧАГОЎ ПЕРАМЕН

— САВЕЦКАЯ культура сёння становіцца адным з важных рычагоў рэвалюцыйных перамен, якія адбываюцца ў краіне, перш за ўсё з прычыны свайго вялікага і непасрэднага ўплыву на чалавека,— заявіў у гутарцы з карэспандэнтам Агенцтва друку Навіны міністр культуры СССР **Васіль ЗАХАРАЎ**. — Разам з павышэннем грамадскай ролі культуры вялікія перамены прыйшлі і ў саму мастацкую сферу. Аб гэтым сведчаць вынікі прайшоўшых нядаўна з'ездаў творчых саюзаў: кінематаграфістаў, пісьменнікаў, тэатральных дзеячаў. Гэта былі ў поўным сэнсе слова ачышчальныя з'езды. Яны далі ясную карціну становішча ў нашым мастацтве, усяго, што тармазіла яго развіццё. Некаторыя, праўда, у разгар палемікі былі схільныя тлумачыць усе беды бюракратычным падыходам дзяржаўных органаў да творчых арганізацый. Але аказалася, што і ў самім творчым асяроддзі многа было застойнага, бюракратычнага. Новыя людзі, што прыйшлі да кіраўніцтва, змаглі прывесці ў дзеянне рычагі абнаўлення.

Ажывілася ўсё культурнае жыццё. На экранах кіно, на сцэнах тэатраў краіны з'явіліся фільмы і п'есы, у якіх з абвостранай адкрытасцю ставяцца пытанні грамадскага жыцця. Апублікаваны творы аўтараў, якія ўнеслі сваёй творчасцю прыкметны ўклад у рускую, савецкую культуру, але ў мінулым былі незаслужана забыты.

Некаторыя самадзейныя тэатры-студыі атрымалі дзяржаўную падтрымку. У Маскве такіх тэатраў ужо восем. У выніку дэмакратызацыі тэатральнага жыцця інакш сталі падыходзіць і да фарміравання труп, да назначэння галоўных рэжысёраў. Скажам, у Тэатры на Таганцы ў Маскве яго новы рэжысёр Мікалай Губенка быў выбраны калектывам гэтага тэатра.

*— Вы называеце асобныя з'явы, Васіль Георгіевіч. А ці можна ўжо сёння гаварыць аб перабудове і дэмакратызацыі культуры як аб глыбокім працэсе?*

— Безумоўна. Значна павышаецца, напрыклад, роля творчых саюзаў, іх самастойнасць у вырашэнні творчых праблем, а гэта ўжо прынцыповае новаўвядзенне. Як вынік дэмакратызацыі ўтварыліся тры грамадскія культурныя фарміраванні — Савецкі фонд культуры, Усесаюзнае музычнае таварыства і Саюз тэатральных дзеячаў.

На шырокае абнаўленне нацэлены і эксперымент, што пачаўся ў тэатральнай справе, сутнасць якога заключаецца ў тым, каб прадаставіць больш правоў — ад выбару рэпертуару да фарміравання трупы — самім калектывам. Укараняюцца дэмакратычныя пачаткі і ў дзейнасць канцэртных арганізацый. Пры тарыфікацыі артыстаў цяпер карыстаюцца павышанымі правамі нізавыя творчыя арганізацыі.

Неабходнай часткай перабудовы ўвогуле і ў сферы культуры ў прыватнасці з'яўляецца публічнасць. Так, напрыклад, усе больш ці менш значныя конкурсы сталі адкрытымі для шырокіх колаў грамадскасці. Тут можна прывесці прыклад з усенародным абмеркаваннем праекта помніка Перамогі ў Маскве. Публічным будзе і конкурс праектаў помніка барацьбітам рэвалюцыі ў Ленінградзе.

Развіццё дэмакратыі прымушае пераглядзець некаторыя канцэптуальныя пытанні развіцця культуры. Адным з галоўных тармазоў яе паступальнага руху былі забаронныя метады, якія нанеслі вялікі ўрон нашаму мастацтву. На працягу дзесяцігоддзяў тармазілася развіццё многіх новых форм у музыцы, жывапісе. У некаторых «мэтраў» была прывычка дзяліць мастацтва на «высокае» і «нізкае». Кла[...]ая музыка, скажам, далу[...]ся да вышэйшага, а эстрада — да ніжэйшага. А гэта ж таксама адна з форм забароны. Многія па-сапраўднаму мастацкія творы так і не змаглі атрымаць у тыя гады права на [...]ццё.

Міністэрства куль[...] ўжо зрабіла крокі да таго, каб адмовіцца ад падобнай практыкі. Мы зыходзім з таго, што няма напрамкаў у мастацтве, якія не мелі б права на існаванне. Адзінае, супраць чаго мы змагаліся і заўсёды будзем змагацца, — гэта прапаганда ў мастацкіх творах насілля і амаральнасці, міжнацыянальнай варожасці, вайны, гэта значыць, з тым, што супярэчыць асноватворным прынцыпам савецкага грамадства. Дарэчы, хачу заўважыць, забароны не заўсёды дапамагалі нам змагацца і з пранікненнем буржуазнай «масавай» культуры. Мы не ўлічвалі асаблівасці псіхалогіі часткі моладзі, якая цягнецца да пэўных форм заходняга мастацтва па прынцыпу: раз забараняюць, значыць, цікава. Таму што забаронены плод заўсёды салодкі... Вядома, зыходзячы з задач эстэтычнага выхавання мас, мы не можам праяўляць тут абыякавасць. Як і раней, будзем актыўна развіваць усе напрамкі народнай творчасці, фальклору, каб лепшыя яго творы не зніклі. І, вядома, прапагандаваць класічную спадчыну ў самых разнастайных яе праявах, і менавіта на ёй старацца выхоўваць людзей.

*— Ну а як вы ставіцеся да некаторых твораў культурнай спадчыны нашага народа, якія доўгі час заставаліся пад замком у музейных запасніках?*

— Вы, відавочна, маеце на ўвазе так званы рускі авангард у жывапісе 20-х гадоў. Думаю, што мы сапраўды памылкова не ўдзялялі яму належнай увагі. А многае ж з яго з'яўляецца часткай нацыянальнай культуры і пэўным этапам у яе развіцці. Я маю на ўвазе творчасць Ларыёнава, Кандзінскага, Філонава, Малевіча, Шагала, Ганчаровай і іншых... Даследаванне гэтага перыяду праводзілі пераважна заходнія мастацтвазнаўцы, якія супрацьпастаўлялі авангард 20-х гадоў усяму савецкаму мастацтву, «палітызуючы» яго. Чаму ж яно аказалася ў нас у забыцці? Ды таму, што не было аб'ектыўнага вызначэння месца гэтай плыні ў гісторыі савецкай культуры. У выніку нашых забарон, з аднаго боку, і аднабаковага падыходу заходніх мастацтвазнаўцаў — з другога, савецкія аматары жывапісу мала што ведаюць аб гэтым мастацкім напрамку, а на Захадзе, наадварот, лічаць, што авангардам 20-х гадоў увогуле абмяжоўваецца жывапіс СССР гэтага перыяду. А іншыя напрамкі? Калі ў Злучаных Штатах прайшла выстаўка рускіх і савецкіх мастакоў 1900—1930-х гадоў, для многіх яна стала поўным адкрыццём. Глядач быў моцна ўражаны разнастайнасцю нашай культурнай спадчыны. Сёння «забароненыя» напрамкі сталі паўнапраўнай часткай нашага выяўленчага мастацтва.

Перакананы, што гэтак жа беражліва трэба ставіцца і да сучаснага савецкага мастацтва, да маладых мастакоў, кампазітараў, рэжысёраў... Нам патрэбна разнастайнасць форм і мастацкіх канцэпцый ва ўсіх галінах культуры.

*— Вядома, якую пільную ўвагу замежнай грамадскасці выклікаюць перамены ў Савецкім Саюзе. А як перабудова ў культуры адбілася на нашых міжнародных культурных сувязях?*

— Ну, перш за ўсё ў новых умовах творчыя Саюзы СССР больш шырока і самастойна ўдзельнічаюць у ажыццяўленні культурных сувязей з замежнымі калегамі. Аб'ектыўна сама перабудова расшырае магчымасці наладжвання кантактаў, паколькі мастацкая гама таго, што мы можам прапанаваць нашым партнёрам, значна расшырылася. Ды і мы сталі больш актыўна запрашаць замежных дзеячаў культуры самых розных напрамкаў.

Увогуле гаворачы, працэс гуманізацыі міжнародных адносін стаў сёння значным прыкметам часу. Пры актыўным удзеле, як вядома, многіх майстроў культуры адбыўся мінулай зімой у Маскве міжнародны форум «За бяз'ядзерны мір, за выжыванне чалавецтва». Выступаю[...]а форуме, Міхаіл Сяргее[...] Гарбачоў выказаў думку аб тым, што «народ, які ведае і цэніць культуру і мастацтва іншых народаў, не можа да іх зведваць нядобрыя пачуцці». Важную ролю міратворцы [...]конвае і наша сацыялістычн[...]льтура.

У сув[...] са святкаваннем 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Дні савецкай культуры пройдуць ва ўсіх сацыялістычных, а таксама ў многіх капіталістычных і краінах, што сталі на шлях развіцця. Вельмі шырокай будзе выставачная практыка. Вялікая мастацкая экспазіцыя адбудзецца ў Аргенціне, вядуцца перагаворы з ЗША і Канадай. Сёлета адкрыліся унікальныя па сваіх маштабах і значнасці савецка-індыйскія фестывалі, якія будуць працягвацца каля года. У іх прымуць удзел з кожнага боку больш трох з палавінай тысяч чалавек.

На міжнародным узроўні мы працягваем творчае развіццё выставачнага жанру. Цікава прайшла восенню 1986 года ў Маскве Міжнародная выстаўка «Майстры культуры за мір». На ёй былі не толькі прадстаўлены творы мастакоў сацыялістычных краін, але і сама выстаўка стала як бы майстэрняй па стварэнню новых твораў. Тут спалучаліся творы самых розных жанраў — ад кіно да прыкладнога мастацтва, праводзіліся вельмі жывыя сустрэчы, дыспуты, лекторыі і да т. п. Мы будзем працягваць такую практыку.

Характэрна, што нашы партнёры сталі праяўляць цікавасць не толькі, так сказаць, да класічных жанраў савецкага мастацтва. За мяжой заўважылі, што ў нас ёсць эстрада, прычым даволі высокага ўзроўню. У Індыі мне нядаўна выказалі пажаданне ўбачыць выступленні савецкіх рок-груп. Некаторыя з гэтых груп ужо з поспехам гастралявалі ў шэрагу капіталістычных краін, у тым ліку ЗША і Канадзе.

Актывізаваўся ўдзел у барацьбе за мір савецкай творчай інтэлігенцыі. Адным з прыкладаў гэтага з'явіўся «Іссык-Кульскі форум», сустрэча буйнейшых пісьменнікаў свету, праведзеная па ініцыятыве пісьменніка Чынгіза Айтматава на беразе возера Іссык-Куль. Вельмі важна, што сустрэчы пісьменнікаў стануць цяпер рэгулярнымі. Сёлета намячаецца правесці такую сустрэчу ў Швейцарыі. Актыўна ўдзельнічае савецкая творчая інтэлігенцыя і ў Культурным форуме дзяржаў—удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, першае пасяджэнне якога адбылося ў 1985 годзе ў Будапешце. Майстры культуры выказалі важныя ініцыятывы, закліканыя ўзняць ролю і адказнасць культуры ў лёсе чалавецтва, яе ўклад у справу ўмацавання ўзаемаразумення і ўзаемнай павагі паміж народамі.

У заключэнне хачу нагадаць, што 1988—1997 гады ААН абвясціла Сусветным дзесяцігоддзем развіцця культуры. Дзеячы савецкай культуры рыхтуюцца прыняць у мерапрыемствах гэтага Дзесяцігоддзя самы актыўны ўдзел. І мы выказваем надзею, што гэтыя гады стануць для народаў планеты сапраўднай дарогай культуры і міру, якая вядзе ў 21-шы век — век без зброі і вайны.

**Інтэрв'ю правёў Сяргей МЕШЧАРАКОЎ.**





**Яшчэ не ўлеглося радаснае хваляванне ад нядаўняй гастрольнай паездкі народнага ансамбля песні і танца Дома культуры горада Ліды ў Чэхаславакію, а самадзейныя артысты пачалі падрыхтоўку новай канцэртнай праграмы. Яна будзе прысвечана 70-годдзю Вялікага Кастрычніка.**

**За дваццаць пяць год свайго існавання ансамбль «Лідчанка» далучыў да творчасці некалькі пакаленняў юнакоў і дзяўчат. З багатым рэпертуарам, які складаецца з пяці вакальна-харэаграфічных кампазіцый, каля 50 народных беларускіх песень і дзесяці танцаў, энтузіясты сцэны пазнаёмілі жыхароў роднага Прынямоння, выязджалі ў Маскву і рэспублікі Прыбалтыкі. «Лідчанка» запрошана для ўдзелу ў рэспубліканскім тэлевізійным конкурсе.**

**НА ЗДЫМКАХ: артысты аркестравай групы ансамбля (злева направа)—цымбалістка Ірына ПОЦІНА, мастацкі кіраўнік Уладзімір ГАРАЧОЎ і канцэртмайстар Пётр ШЧАБЛЫКІН; салістка ансамбля Марына МІРУКОВА.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

# СВЯТА КНІГІ Ў БАРАНАВІЧАХ

Баранавічы—адзін з буйных прамысловых і культурных цэнтраў на захадзе Беларусі. Штогод тут праводзяцца цікавыя культурныя і спартыўныя мерапрыемствы.

Мноства жыхароў і гасцей горада прыцягнула агульнагарадское свята кнігі. Яно пачалося мітынгам, прысвечаным адкрыццю барэльефа і мемарыяльнай дошкі Валянціну Таўлаю, беларускаму савецкаму паэту, дзеячу рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Да будынка Цэнтральнай гарадской бібліятэкі, якая носіць імя Валянціна Таўлая з 1979 года, прыйшлі паклоннікі яго паэтычнага таленту.

Аб жыццёвым і творчым шляху пісьменніка, яго рэвалюцыйнай дзейнасці і барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ўдзельнікам мітынгу расказалі пісьменнік, прафесар Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна Алег Лойка і доктар філалагічных навук Мікалай Арочка. Намесніку старшыні гарвыканкома З. Хаменка і дачцэ Валянціна Таўлая Галіне было дадзена права адкрыць мемарыяльную дошку.

Пад гукі духавога аркестра ўдзельнікі мітынгу прайшлі па вуліцы Леніна, усклалі жывыя кветкі да памятнага знака ў гонар вызваліцеляў горада і помнікаў У. І. Леніну і двойчы Герою Савецкага Саюза С. Грыцаўцу.

Вечарам свята кнігі працягвалася. У цэнтральным парку культуры і адпачынку галоўнай падзеяй сталі сустрэчы з беларускімі літаратарамі Міколам Федзюковічам, Анатолем Клышкам і членамі гарадскога літаратурнага аб'яднання «Плынь».

Цікавымі мерапрыемствамі быў напоўнены і другі дзень свята. Напрыклад, у Доме культуры будаўнікоў адбылося пасяджэнне аматарскага клуба «Бібліяфіл», у клубе чыгуначнікаў—тэматычны вечар «Усе краі табе адкрыты на старонках кнігі», у Палацы культуры і тэхнікі—літаратурны вечар «Паэзія—душы вяселле». На агітпляцоўцы парку работнікі гарадской бібліятэкі выступілі з літаратурнай кампазіцыяй «Валянцін Таўлай—пясняр рэвалюцыйнай барацьбы», а самадзейныя кампазітары горада на суд гледачоў прадставілі свае новыя творы.

**Мікалай РОЗУМ.**

## МАСТАК І ЖЫЦЦЁ

# «ПІШУ ТЫХ, КАГО ЛЮБЛЮ ЎСЁЙ ДУШОЙ»

«Пішу тых, каго люблю ўсёй душой»,—так адказаў на пытанне аб выбары герояў сваіх карцін мастак Міхаіл Моўчан. Імя гэтага чалавека не такое вядомае, як, скажам, Міхаіла Савіцкага ці Арлена Кашкурэвіча. Але ў кожнага творцы свой шлях, свой лёс, больш ці менш шчаслівы.

На сваёй персанальнай выстаўцы, што нядаўна адбылася ў мінскім Палацы мастацтва, Міхаіл Моўчан паказаў у асноўным жывапісныя партрэты сучаснікаў (наогул па адукацыі ён графік і працаваў у галіне станковай графікі)—гэта плён апошніх пяці-шасці гадоў. Сярод яго герояў—партрэты паэта Сяргея Грахоўскага, артысткі Стафаніі Станюты, кінарэжысёра Ігара Дабралюбава, пісьменніка Васіля Быкава, кампазітара Сяргея Картэса, матэматыка Уладзіміра Платонава—цэлая галерэя дзеячаў беларускага мастацтва, навукі і культуры. Невялікая сама па сабе экспазіцыя—у ёй прадстаўлена каля трох дзесяткаў работ—выклікала немалую цікавасць гледачоў, а таксама і гарачыя спрэчкі паміж прыхільнікамі творчасці аўтара і тымі, хто яе не ўспрымае.

Якімі аргументамі карысталіся абодва бакі?

«Прыемна глядзець на людзей, напісаных у напаўзабытай у наш час рэалістычнай традыцыі, так, як працавалі ў мінулым стагоддзі вядомыя майстры».

«За вонкавай прыгажосцю герояў часам цяжка ўбачыць іх духоўны свет, характар».

«З прафесійнага пункту гледжання мастак на вышыні, але ж у яго выбары герояў з пэўных колаў грамадства можна ўбачыць тэндэнцыю і нават кан'юнктуру».

Строгія, добразычлівыя, а часам і не зусім справядлівыя заўвагі былі выказаны М. Моўчану гледачамі ў час сустрэчы з ім на выстаўцы.

— Якраз вось такія непасрэдныя сустрэчы і даюць мне вельмі многа як мастаку,—дзеліцца сваімі думкамі М. Моўчан.—Дзякуючы ім, я пачынаю лепш разумець, у чым найбольш моцны, а дзе слабаваты. Да таго ж, увага людзей, хай сабе і негатыўная, стымулюе саму работу. Хочацца зноў пісаць і пісаць.

У майстэрні мастака, што знаходзіцца ў самым цэнтры горада і з вокнаў якой відаць Ленінскі праспект, зараз ідзе рамонт. Тым больш уражвае сярод голых сцен партрэт, над якім цяпер працуе Моўчан. Прыгожы, адухоўлены твар жанчыны, артысткі... Гераіня гэтай карціны Святлана Данілюк, дарэчы, неаднойчы бывала тут у майстэрні. Па словах мастака, яна не пазіравала спецыяльна, але яны многа размаўлялі пра жыццё, пра сучаснае мастацтва, і менавіта гэтыя сустрэчы давалі яму матэрыял для будучай работы, для разумення вобраза гераіні. Падобным шляхам ішла праца і над партрэтамі Быкава, Грахоўскага, Платонава, Танка.

Гэту майстэрню М. Моўчан атрымаў у 1965 годзе, праз тры гады пасля сканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. А паступіў ён у інстытут у той год, калі іх сям'я вярнулася з далёкай Аргенціны.

...У 1939 годзе з Навагрудчыны на чужыну паехалі шукаць лепшай долі тысячы беларусаў. Голад і галеча гналі іх з наседжаных месцаў. Так апынулася ў Буэнас-Айрэсе сям'я Аляксея Моўчана, у якой было чацвёра дзяцей. Неяк уладкаваліся, пайшоў зарабляць грошы і чатырнаццацігадовы сын Міхаіл.



— Трапіў я на адзін невялікі заводзік, дзе выраблялі замкі,—прыгадвае М. [illegible]оўчан.—Паставілі мяне [illegible]перацыю. Неўзабаве я а[illegible]іў і ўвесь тэхналагічны працэс. Даведаўся пра тое гаспадар і загадаў перайсці на зборку. Аднак мне, хаця я і працаваў нароўні з майстрамі, доўга яшчэ не плацілі, як [illegible]казалі—непаўналетні. [illegible]гул жа працаваць у Аргенціне мне давялося ў многіх месцах, авалодаў, бадай, дзесяткам прафесій. Сам магу сабраць фотаапарат, зрабіць мэблю і шмат чаго іншага.

Але ніколі не расставаўся хлопец з марай аб прафесіі мастака. Дзе б ні працаваў—усюды ведалі, што гэты малады чалавек няблага малюе. У адной з фірм па вырабу дэталей для аўтамабілей Міхаіл Моўчан па загаду дырэктара быў абавязаны прысутнічаць на кангрэсах і нарадах, каб рабіць вясёлыя шаржы і малюнкі.

Пасля беспрасветнай беднасці, якую іх сям'я зведала ў Заходняй Беларусі, тут, у Аргенціне, жыццё складвалася не горшым чынам. Праўда, даводзілася многа працаваць. Але затое і апранутыя ўсе, і сытыя. І ўсё ж за 16 гадоў жыцця ў краіне, якая прытуліла іх у цяжкі час, сям'я беларускіх эмігрантаў так і не змагла прыжыцца, пусціць тут глыбокія карані, хаця паявіўся і дабрабыт, і пэўны дастатак, і сябры. Моцна цягнула да сваіх людзей, у Беларусь, дзе нарадзіліся.

— У 1956 годзе мы прыехалі ў Мінск,—працягвае М. Моўчан.—Радасць была бясконцай ад вяртання на Радзіму. Усё, аб чым марылася, пачало здзяйсняцца. Я паступіў у інстытут, дзе нарэшце заняўся сваёй адукацыяй. Упершыню ў жыцці, а было мне тады ўжо 30, я мог не думаць з бояззю аб заўтрашнім дні, аб сродках да існавання. Шэсць гадоў—лекцыі, заняткі, бібліятэкі, першыя выстаўкі... Як і ўсе студэнты, рэгулярна атрымліваў стыпендыю. Неўзабаве пасля сканчэння інстытута мяне прынялі ў Саюз мастакоў БССР.

— Ці задаволены вы сваім лёсам? Ці змаглі рэалізаваць свае творчыя магчымасці?—пытаюся я ў мастака.

— Так. Я задаволены сваім лёсам. Разумееце, чалавеку, каб быць шчаслівым, відаць, трэба няшмнога: жыць сярод сваіх людзей і быць ім карысным. Я вось зараз думаю, што, магчыма, пры вялікім жаданні я змог бы і ў Аргенціне атрымаць мастацкую адукацыю. Аднак не атрымаў. І гэтаму ёсць прычына. Хаця ўзровень жыцця ў краіне, дзе мы апынуліся воляю лёсу, быў ужо тады і застаецца цяпер вышэйшым за наш узровень жыцця, духоўныя патрэбнасці меншыя. У Аргенціне не надта многія імкнуцца да ведаў. Я далёка не ўпэўнены, што мае дзеці, застанься я ў Аргенціне, сталі б вучыцца ва універсітэце ці ў кансерваторыі. Дарэчы, мой сын Сяргей займаўся ў спецыяльнай музычнай школе пры Белдзяржкансерваторыі ў Мінску, скончыў Ленінградскую кансерваторыю, мае дыплом кампазітара, а дачка Марына скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт, працуе філолагам у Мінску. У дзяцей вялікія магчымасці, і толькі ад іх залежыць, як яны рэалізуюць свае здольнасці і атрыманыя веды.

Што ж датычыцца мяне, то я не магу быць цалкам задаволены тым, як рэалізаваў свае магчымасці. Дванаццаць гадоў прысвяціў выкладчыцкай працы, потым выконваў работы ў Мастацкім камбінаце. Працаваў вугалем, пастэллю, у тэхніцы лінагравюры, літаграфіі, афорта. Рабіў плакаты, выконваў афарміцельскія заказы. Аднак увесь час мне хацелася пісаць колерам. Жывапіс быў маёй тайнай любоўю. А партрэтам я наогул заняўся ў пачатку 80-х гадоў. Хачу зрабіць яшчэ не адзін партрэт нашых сучаснікаў. Прываблівають асобы неардынарныя, значныя, людзі-стваральнікі, якія сваёй працай праславілі наш край і яго народ.

**Таццяна АНТОНАВА.**

НА ЗДЫМКАХ: М. МОЎЧАН. Партрэты В. БЫКАВА, В. ПЛАТОНАВАЙ, Т. ШАМЕТАВЕЦ.





## СТАРОНКІ МІНУЛАГА

# ЛІСТ З «НАШАЙ НІВЫ»

РОЛЯ «НАШАЙ НІВЫ» ў духоўным адраджэнні беларусаў становіцца ўсё больш пазнаванай і прызнанай, хоць у гэтай узнёслай кнізе яшчэ шмат нераскрытых, непрачытаных старонак. Пра адну з такіх хачу расказаць. Гаворка пойдзе пра пісьмо рэдакцыі беларускай газеты ад 29 студзеня 1907 года, адрасаванае ў Лондан да кіраўніцтва Польскай сацыялістычнай партыі (ППС). Тэкст пісаны ад рукі чорным чарнілам на шасці няпоўных лінаваных старонках памерам у палову аркуша, з фірмовым штэмпелем зверху першай старонкі: «Наша Ніва», Беларуская газета. Вільня, вуліца Бальшая Пагулянка, 17». Дакумент у польскай мове і зместам прыкметны з розных меркаванняў. Па-першае, характарыстыкай тадышніх палітычных варункаў, чарнасоценнай і клерыкальнай рэакцыі, у якіх адбывалася станоўленне беларускага дэмакратычнага выдання. Па-другое, сацыяльна-грамадскім накірункам дзейнасці рэдакцыі газеты, найперш дзеля працоўных нізоў — рабочых і сялян. Па-трэцяе, канкрэтнымі дэталямі адносна арганізацыйна-фінансавых праблем выдання, распаўсюджвання і «геаграфіі» пашырэння газеты. Цікав[illegible] нарэшце, і адрасат пісьм[illegible]боку грамадска-палітычных [illegible]вязей «Нашай нівы». Ліст захоўваецца ў Цэнтральным архіве Польскай аб'яднанай рабочай партыі (Варшава), у скрынцы «Лонданскі архіў ППС». Увагу[illegible] маю на гэты дакумент зв[illegible]ў Юрка Туронак, вядомы с[illegible] рупнасцю даследчык беларускай культуры ў братняй Польшчы, яму і належыць заслуга першаадкрывальніка.

Напачатку ў лісце агавораны палітычныя цяжкасці, цкаванне прагрэсіўнага друку з боку рэакцыйных сіл, на сумленні якіх аказаўся дачасны скон «Нашай долі» — газеты з немалым для свайго часу попытам сярод чытачоў: 6 тысяч экземпляраў. У наступніцы «Нашай долі», адзначаецца ў тэксце пісьма, не ўсё ладзілася з першымі нумарамі. «Толькі пачынаючы з пятага нумара,— чытаем далей,— «Наша Ніва» можа развівацца і развіваецца нармальна. Цяпер друкуем 5 тысяч (3 000 «рускімі» і 2 000 лацінскімі літарамі), з чаго львіную частку забірае вёска праз местачковыя агентуры (2 200), далей — гарады (Вільня, Мінск па 400 штук, іншыя менш), падпіска. Тая, апошняя, расце паціху, але няўхільна. Найцяжэй даюцца першыя крокі, стварэнне агентуры — бо трэба паконваць недавер агентаў, якія дасюль зусім не разлічвалі на «шэры рынак», бездапаможнасць сялян — прадаўцоў газеты сярод пабратымчай публікі, непрызвычаенне селяніна і рабочага да чытання якіх колечы газет. Але «Наша Ніва» паспяхова пераадольвае ўсе гэтыя цяжкасці. Паўтараю, кожны дзень прыносіць новых падпісчыкаў, новых агентаў. Апанавана Міншчына, Віленшчына, Гродзеншчына, здабываем Магілёўшчыну і Віцебшчыну. Ёсць пункты ў Смаленскай, Чарнігаўскай (Парэцкі і Навазыбкаўскі паветы), Сувальскай губернях. Пашыраемся няўхільна, хоць паволі. Не гледзячы на светлую будучыню, сягоння вельмі цяжка. Цяжка, бо кошты выдавання (2 тыражы) вялізныя, бо галоўная рэалізацыя праз агентаў апрача вялікага працэнту (40 працэнтаў), замарожвае капітал (2—3 месяцы), бо ў дробных агентурах значная частка грошай гіне. А запасы нашыя надта сціплыя. Ліберальнай буржуазіі наогул не маем. Кішэні ж прафесіянальнай інтэлігенцыі дзіравыя і пустыя. У цяперашнім жа часе толькі «Наша Ніва» можа паспяхова садзейнічаць прагрэсу на Белай Русі. «Эха» (цяпер «Тапор») ахоплівае толькі свядомых рабочых, для шырокіх мас не даступная. Польскія газеты з Каралеўства, апрача цяжказразумелай моўнай формы, чужыя зместам. Таксама і рускія (выданні). ...Калі ж паглядзець друкі, спецыяльна прызначаныя для мясцовых варункаў і тым, здавалася б, больш даступныя за іншыя, то знаходзяцца там і «Зожа Віленьска», «Пшыяцель люду», «Товажыш працы», «Зорька», «Крестьянин»—усе чарнасоценныя, тры біскупскія, два архірэйскія. Усе багатыя і на грошы, і на падтрымку клеру і ўлад,—з імі менавіта змагаецца «Наша Ніва».

Сёння неабходнасць працы па-беларуску зразумеў нават біскуп Роп. Ведаю пэўна, што ён арганізаваў беларускую газету і што адразу пасля ўпадку ці затрымкі з «Нашай Нівай» пачне выдаваць. Ужо выдадзена ім адна палітычная брашура і пара клерыкальных. З гэтага вынікае, што «Наша Ніва» з'яўляецца сёння першазначнай пляцоўкай, асабліва ў сувязі з прадстаячымі выбарамі. Раней жа, чым праз паўгода, мы не можам разлічваць на тое, што газета аплоціць усе кошты яе выдавання. Сродкі нашыя амаль вычарпаны. Звяртаемся да вас, шаноўны таварыш, ці не здолелі б дапамагчы нам. Трэба нам каля 100 рублёў, мо змаглі б дастаць такую суму — няхай як доўгатэрміновую (на колькі год) апрацэнтаваную ці без працэнтаў альбо як тэрміновую (на паўгода) працэнтную пазыку.

Адкажыце, калі ласка, проста ў рэдакцыю».

Далей — той жа адрас газеты, пазначаны на пачатку ліста, і подпісы ўласнаручныя рэдактара-выдаўца Аляксандра Уласава і сакратара рэдакцыі Г. Букоўскага. Почырк абодвух подпісаў розніцца ад почырку пісьма, падрыхтаванага, трэба думаць, кімсьці іншым з кіраўніцтва газеты. Зварот да кіруючага актыву ППС не быў выпадковым, калі ўлічыць, што пад знакам сацыялістаў (Польская сацыялістычная партыя ў Літве) некалькімі гадамі раней у Лондане выйшлі агітацыйныя брашуры на беларускай мове: «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць», «Хто праўдзівы прыяцель народу», «Як зрабіць, каб людзям стала добра на свеце» (усе — Лондан, 1903 год). Меўся, такім чынам, пэўны вопыт, і ён, мажліва, падштурхоўваў беларускіх асветнікаў на творчы кантакт з польскімі сацыялістамі. Але гэтым разам узаемадзеянне не адбылося, калі меркаваць па сціплай паметцы наўскос верхняга вугла першай старонкі пісьма: «Не адказана». Чаму просьба-прапанова з беларускай газеты засталася без водгуку? Можна выказаць толькі самае агульнае прыпушчэнне. Правае кіраўніцтва ППС наўрад ці было зацікаўлена мець справу з самастойным беларускім вызваленчым рухам, у мажлівасць якога яны звычайна не верылі, а беларускае пытанне разглядалі хутчэй як рэгіянальную, «крэсавую» разнавіднасць пытання польскага. Як там ні было, а разгледжанае намі пісьмо цікавае само па сабе, бо ўваскрашае рэальныя абставіны адраджэння беларускага літаратурнага слова, дзеля якога прыйшла на свет і аддана служыла «Наша ніва».

**Аляксей КАЎКО.**

